


*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!* *Я.Купала*

# Купалінка

**ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ**

**№ 05 (46) • ЖНІВЕНЬ 2014**


# МОВА ДЗЕТКАМ

**АКЦЫЯ АД КАМПАНІІ “НАША МОВА”**




**У межах кампаніі “Наша мова” актывісты гісторыка-культурнага аб’яднання “Харугва” і АРР “Дзедзіч” падрыхтавалі ў гэтыя цёплыя дні акцыю “Мова дзеткам” для маленькіх жыхароў Берасця.**

Дзяцінства – цудоўны, прыемны і пяшчотны час у жыцці чалавека. Калісьці матуля і тата чыталі нам казкі перад сном. Казачная гісторыя скончалася перамогай дабра, вясёлай песняй, добрымі ўчынкамі, старэйшыя дапамагалі меньшым, дабро перамагала зло.

Сёння не проста знайсці ў краме кніжку з беларускімі казкамі, пры гэтым з каляровым афармленнем і на роднай мове.

Маленькі чалавек любіць разглядаць малюнкі, пытаць пра намаляваных “жыхароў” кніжкі, вяртацца да іх у канцы.

З гэтай нагоды берасцейскі дызайнер Ганна Яцкевіч дапамагла кампаніі “Наша мова” і стварыла маляўнічы шэдэўр для берасцейскіх дзяцей – кніжку з беларускай народнай казкай “Дзяцел, лісіца і варона”.

Дзеткі пазнаёмяцца з жыхарамі леса: дзятламбалтуном, хітрай лісіцай і шэрай мудрай варонай. З працамі Ганны можна пазнаёміцца на яе сайце: Anna Bell Design: http://annabelldesign.blogspot.ru/.

Актывісты кампаніі “Наша мова” будуць раздаваць кніжку маленькім чытачам на вуліцах Берасця, частка наклада будзе перададзена ў навучальныя ўстановы. Час, месца правядзення акцыі і іншыя дэталі глядзіце ў суполцы кампаніі “Наша мова”: vk.com/nashamova.

Калі ў Вас ёсць жаданне дапамагчы актывістам “Харугвы” і АРР “Дзедзіч”, пішыце ў суполку ці на электронны адрас: harugvabrest@gmail.com.

Часам усё адбываецца дакладна як у казцы!

Чытайце сваім дзеткам беларускія народныя казкі разам з “Нашай мовай”.

***dzedzich.org***





# ЗНАЙ СВОИ ПРАВА!

## АКТИВИСТЫ ПРОФСОЮЗА РЭП ПОВЫСИЛИ ПРАВОВЫЕ ЗНАНИЯ МОЛОДЕЖИ

**27 июля состоялась выездная встреча активистов профсоюза РЭП и брестской молодежи из нескольких общественных организаций. Главной целью таких встреч является повышение уровня знаний в сфере защиты прав наемных молодых работников Бреста.**



Организовать кампанию в рамках БКДП помогают молодые активисты Агенства регионального развития "Дзедзич", Брестского молодежного общественного объединения "Оазис", общественная компания "За вело-Брест".

Большинство молодых специалистов и будущих работников не спешат повышать свои правовые знания в сфере трудовых отношений, плохо себе представляют все особенности и подводные камни контрактной системы. Незнание подобных аспектов приводит к нарушению трудовых прав данной категории граждан.

Молодым людям в городе были розданы листовки с приглашением прослушать лекцию о контрактной системе, ее плюсах и минусах. А молодежь в свою очередь предложила сделать лекцию выездной. Организовали своими силами экскурсию в окрестностях Бреста. Сначала посетили палац Немцевичей 18 столетия в деревне Скоки, Троицкий костел 16 столетия и церковь 18 столетия в деревне Чернавчицы. Затем, разместившись поудобнее, на природе правовой инспектор профсоюза РЭП по Брестской области Владимир Малей рассказал о формах трудоустройства, о принудительной контрактной системе и примерах из практической деятельности профсоюза.

Примечательно, что молодые люди слушали внимательно и потом задавали возникшие взволновавшие их вопросы. Планируется такие встречи проводить почаще.

***dzedzich.org***

## ФОТАГУЛЬНЯ Ў БЕРАСЦІ АД КАМПАНІІ «НАША МОВА»

**Надакучылі бессэнсоўныя прагулкі па Савецкай? Мы прапаноўваем больш даведацца пра цікавосткі нашага горада. 29 жніўня "Наша мова" праводзіць гульню, звязаную з беларускай мовай у Берасці.**

Гульцам трэба будзе выйсці на вуліцу і выканаць некалькі цікавых і нескладаных фотазаданняў. Заданні будуць рознага кшталту, але абавязкова звязаныя з беларускай мовай, яе праяўленнямі ў нашым горадзе. Максімальная колькасць заданняў – 7. Каб прэтэндаваць на прызы неабходна выканаць іх усе.

Для ўдзелу ў гульне неабходны фотаапарат (падыйдзе нават камера ў мабільным тэлефоне) і жаданне. Але калі вы здымаеце камерай з тэлефона ўпэўніцеся, што на фатаздымку бачна, што вы робіце.



Гульня стартуе 29 жніўня. У пэўны час будуць раздадзеныя канверты з падказкай да першага пункта. На пунктах будуць схаваны заданні, якія трэба будзе выканаць. Адзін з пунктаў маршрута будзе кантрольны. Там Вас сустрэнуць валанцёры і адзначаць прамежкавыя вынікі.

**Перад удзелам неабходна паведаміць аб сваім жаданні ўдзельнічаць на е-мэйл: harugvabrest@gmail.com.**

У гульні перамагае той, хто раней за іншых выканае ўсе заданні і першы пакажа фотаздымкі арганізатарам, якія будуць чакаць удзельнікаў па адрасе вул. Кірава 60. Усе спрэчныя пытанні вырашаюць арганізатары.

Увага! Некалькі важных момантаў:

-перасоўванне па горадзе толькі пешшу (гульня будзе праводзіцца ў межах цэнтральнай часткі Берасця);

-у кожнай каманды будзе магчымасць 1 званка арганізатарам для атрымання завуаліраванай падказкі;

-усе заданні павінны быць выкананы па чарзе.

**Падрабязнасці глядзіце на нашай старонцы Укантакце: https://vk.com/event76114481.**

Прыходзьце, будзе цікава!

***dzedzich.org***

# БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ВАНДРОЎКА

## ПА ВОЛЬНАЙ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЕ

**У пачатку жніўня актывісты кампаніі "НАША МОВА" павандравалі па Берасцейшчыне, пабачылі не вельмі вядомыя, але вартыя ўвагі гістарычныя мясціны-цікавосткі, заначавалі ў намётах ля берага возера і зараз распавядаюць пра свае прыгоды.**



Маршрут вандроўкі "Вольная Берасцейшчына" праходзіў па мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю гістарычных асоб, якія сапраўды навечна засталіся вольнымі ў сваёй празе змагарства, такіх асоб, як Тадэвуш Касцюшка, Тадэвуш Рэйтан, Эдвард Катлубай і іншыя. Маладзёны наведалі Малыя Сяхновічы, Ястрамбель, Паланэчка, Грушаўку, Флер'янава і Нача - былыя сядзібы 18-19 стагоддзяў, помнікі і памятныя знакі ў гонар падзей беларускай гісторыі.

Пра вандроўку нам распавядае адна з непасрэдных удзельніц, Алена:

- *Прыемна ўразіў краязнаўчы музей у Малых Сяхновічах: бачна, што супрацоўнікі шчыра цікавяцца лёсам Касцюшкі і усімі магчымасцямі (дарэчы не зусім вялікімі) намагаюцца захаваць і аднавіць спадчыну. Дырэктар музея, як заўважыла наша зацікаўленне ды захапленне нават паказала дуб, які пасадзіў сам Тадэвуш Касцюшка. Дарэчы тут мы вырашылі прывезці з вандроўкі не толькі прыемныя ўспаміны, а і жалуды (па магчымасці з кожнага месца) і пасадзіць іх ў Залессі, ля будучага Дома Еўрапейскіх Сустрэч. Спадзяемся яны добра прыжывуцца (:*



Далей мы пабачылі два шыкоўных палацы ў Ястрамбелі і Паланэчкі. Палацы сапраўды цудоўныя і прыгожыя, але, як часта ў нас гэта і адбываецца, няма ў нашай дзяржавы ні жадання, ні магчымасці праводзіць рэканструкцыю ў такіх малавядомых мясцінах. Таму яны так і стаяць – шыкоўныя, але ж даўно забытыя. А паглядзець там сапраўды ёсць на што.

У першы дзень у нас яшчэ застаўся час і мы вырашылі яго дарэмна не губляць і наведалі Завоссе, дзе месціцца музей Адама Міцкевіча, і адзін з старэйшых касцёлаў у Беларусі ў Ішкалдзі. Пасля ўжо стомленныя мы паставілі намёты ля возера, распалілі вогнішча, паспявалі беларускія песні (а як жа без іх) і пайшлі адпачываць.

У другі дзень нас гасцінна сустрэла Грушаўка – добрым надвор'ем і прыгожымі мясцінамі. Грушаўка – гэта радзіма выдатнага палітычнага дзеяча і сапраўднага патрыёта Тадэвуша Рэйтана.

Палаца-паркавы комплекс захаваў шмат пабудоў. Напэўна, больш за ўсе ўразіў сам палац. Там, унутры яго, захавалася тынкоўка, ляпніна, размаляваная столь. Нягледзячы на тое, што палац драўляны, захаваўся ён даволі добра, і дапаўняе яго вялікі парк з рэдкімі пародамі дрэў. Каля палаца захаваліся не менш прыгожыя пабудовы: 2 флігеля, стайні, лядоўня, будынак, які меў функцыю гаража, і яшчэ рэшткі нейкага вялікага будынка, з невядомай даследчыкам функцыяй.

Напэўна з усіх мясцін, дзе мы былі, менавіта Грушаўка захавала ў сябе дух былых часоў.

Апошнія дзве кропкі чамусьці не так моцна ўразілі, але іх гістогрыя не менш цікавая. У Флер'яна спадабаўся дуб, які пасадзіла сама Элаіза Пашкевіч, а сядзіба ў Начы, паказала, якая павінна быць класіка. Дарэчы, мы заўважылі, што пад сценамі палаца сушылася жыта, у гэтым было нешта такое невыразна-цёплае і беларускае.

Мне здаецца, нам трэба больш вандраваць па родных мясцінах. Тут захавалася так шмат палацаў, маёнткаў, што належалі прадстаўнікам вядомых беларускіх радоў, дзеячам культуры і палітыкі сваёй краіны і замежжа, Еўропы, ЗША.

Падчас паездкі ўдзельнікі рабілі агульны дзённік экспедыцыі, а таксама нарыхтоўвалі фотаздымкі для будучай фотавыставы, наведаць якую крыху пазней (пра што мы абавязкова паведамім на нашым сайце dzedzich.org і ў адмысловых суполках у "Укантакце") змогуць усе ахвотныя.

Вандроўка адбылася, дзякуючы кампаніі "НАША МОВА" берасцейскага студэнцкага культурнагістарычнага аб'яднання "ХАРУГВА" пры падтрымцы АРР "ДЗЕДЗІЧА". Кампанія на гэтым сваю дзейнасць не спыняе, таму сачыце за навінамі тут - за будучымі конкурсамі і мерапрыемствамі, прысвечанымі нашай мове і нашай культуры.

**dzedzich.org**

# ТЕХНИЧЕСКОЕ ОБСЛУЖИВАНИЕ

## КАКИЕ ВИДЫ РАБОТ И УСЛУГ ВХОДЯТ В ТЕХНИЧЕСКОЕ ОБСЛУЖИВАНИЕ МНОГОКВАРТИРНОГО ДОМА?

**Многие жители Беларуси уже начали получать жировки с детализацией фактических затрат по графе «Техническое обслуживание». Коммунальщики обещают, что уже до конца 2014 года такие подробные жировки будут получать все жители Беларуси.**

Но у многих жильцов новое сообщение для оплаты коммунальных услуг вызвало ряд вопросов. Не все представляют себе, что именно подразумевается под «управленческими расходами», «услугами других организаций» и т. д.

Расшифровку некоторых видов работ и услуг по техобслуживанию дала начальник расчетно-справочного центра № 3 ЖРЭО Центрального района Минска Наталья Чернуха. Итак, смотрим на дополнительную информацию в счете.

Первая, вторая и десятая строки расходов - **«Уборка придомовой территории», «Уборка внутридомовых вспомогательных помещений», «Обслуживание мусоропровода, содержание контейнерных площадок»** включают следующие расходы:

– на оплату труда рабочих по комплексной уборке (дворников),

– на материалы,

– общепроизводственные расходы (зарплата мастеров, расходы на содержание мастерских участков).

При этом расчет затрат по каждому конкретному жилому дому делается, исходя из объемов выполненных работ, отраженных в наряд-заданиях на рабочих по комплексной уборке пропорционально площадям, закрепленным за бригадой.

Наталья Чернуха объясняет, какие виды работ включают в себя эти строки расходов:

– Уборка придомовой территории

– Все виды уборки на придомовых территориях;

– косьба травы;

– полив дворов, проездов;

– вывоз крупногабаритных отходов сверх оплаты населением (т.е. свыше 0,11 куб. м. на человека в год);

– сортировка вторичных материальных ресурсов и крупногабаритных отходов;

– очистка урн, объявлений, мемориальных досок.

– Уборка вспомогательных помещений

– Все виды уборки внутри домов (кроме санитарного обслуживания мусороприемных камер и мусоропроводов), уборка лифтов.

– Обслуживание мусоропровода, содержание контейнерных площадок;

– Все виды работ по санитарному содержанию мусоропроводов, мусороприемных камер;

– удаление твердых коммунальных отходов из мусорокамер;

– уборка контейнерных площадок.

**Третья строка расходов** - «Управленческие расходы» включает в себя расходы на оплату труда работников аппарата управления ЖЭСов и ЖРЭО, а также на интернет-услуги, программное обеспечение, вневедомственную охрану, пожарную сигнализацию, услуги связи, канцелярские принадлежности, содержание служебного автотранспорта и др.

**Четвертая строчка** - «Освещение вспомогательных помещений (подъезд, подвал)» включает расходы на освещение путем прямого распределения затрат.

Наталья пояснила, что под вспомогательными помещениями понимаются помещения, расположенные внутри блочного дома вне квартир (вестибюль, коридор, галерея, лестничные площадки, лифтовые холлы и др.).

В строку расходов - **«Техническое обслуживание конструктивных элементов жилого дома»** включаются следующие расходы:

– оплата труда рабочих, выполняющих техническое обслуживание конструктивных элементов жилых домов собственными силами,

– расходы на приобретение материалов,

– общепроизводственные расходы.

В этот пункт включаются работы, указанные в наряд-заданиях на выполнение работ по профилактическому осмотру и ремонту конструктивных элементов жилого дома согласно графику и в соответствии с перечнем работ по техническому обслуживанию и периодичности их выполнения.

Сюда также может входить техобслуживание конструктивных элементов жилых домов, выполненное с привлечением подрядных организаций. При этом подрядной организацией должны быть представлены в бухгалтерию акты выполненных работ в разрезе каждого дома. Под конструктивными элементами здания понимаются фундаменты наружных стен, междуэтажные перекрытия, крыша, окна, двери, печи, балконы и балконные ограждения.

**«Техническое обслуживание внутридомовых инженерных систем»** - эта строка расходов состоит из тех же затрат, что и предыдущая. Сюда включаются работы по профилактическому ремонту и осмотру инженерного оборудования согласно графику и в соответствии с перечнем работ по техническому обслуживанию и периодичности их выполнения. Также в эту графу включаются работы по ликвидации аварий на внутридомовых инженерных системах городской аварийной службой.

Инженерные системы, по словам Натальи Чернухи, - это системы отопления, горячего и холодного водоснабжения, водоотведения, газо-, электроснабжения, вентиляции, мусоропроводы, лифты и другие системы жилого дома, обеспечивающие необходимые санитарные и технические требования.

**«Противодымная защита»** - в этот пункт включаются работы по еженедельному техосмотру систем, ежемесячному техобслуживанию, ежеквартальному техобслуживанию приточно-вытяжной вентиляции, ежегодные аэродинамические испытания, ежегодные электрофизические измерения электрооборудования, контроль за срабатыванием систем.

Техобслуживание систем противодымной защиты и управляющих ими систем автоматической пожарной сигнализации осуществляет специализированная организация по договору с ЖРЭО. При этом акты выполненных работ должны передаваться в бухгалтерию подрядной организацией по каждому дому.

**«Услуги сторонних организаций (по договорам)»** - это услуги по отлову бродячих животных, расходы на транспорт, привлекаемый для уборки, вывоза крупногабаритного мусора и опавшей листвы. Кроме того, в этой графе отражаются расходы на привлечение подрядных организаций для прочистки дымовых и вентиляционных каналов, ремонт насосов и теплообменников в тепловых пунктах, наладка и проверка групповых приборов учета воды и тепла, химическое промывание бойлеров и систем отопления.

**«Комиссионные расходы за перечисление жилищно-коммунальных платежей»** - эта строка включает расходы по оплате банкам и почте.

**«Налоги и обязательные платежи»** - они включают в себя налог на недвижимость, земельный налог, налог на добавленную стоимость (по материалам, основным средствам, работам, услугам), экологический налог, отчисления в Белгосстрах.

**«Дератизация (дезинсекция)»** - эта строка включает расчет затрат на комплекс мер по уничтожению грызунов, который осуществляется на основании актов выполненных работ за месяц.

**«Амортизационные начисления»** - в эту статью включаются амортизация основных средств (компьютерная техника, мебель, дорогой инструмент и др.). И амортизация по нежилым помещениям.

**«Другие»** - сюда включены расходы на содержание собственного транспорта ЖЭСов и ЖРЭО (ремонт, запчасти, зарплата водителей), а также расходы на содержание расчетно-справочных центров.

***Газета «Звязда»***

*Купалінка*

*ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ*

- **Заснавальнік** – Суполка "Усход-2" гарадской арганізацыі Партыі БНФ
- Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранага карыстання
- **Падпісана ў друк** 23.08.2014 года ў 12-00
- Папера афсетная, 0,5 ул.-друк. аркуша, фармат А4. Гарнітура Myriad
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
- **Наклад:** 299 асобнікаў
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Галоўны рэдактар:** Уладзімір ТАРНОЎСКІ
- **Рэдакцыйная калегія:** Кірыл КАТОВІЧ, Наста ПАПЯЛОЎСКАЯ, Ульяна ВЕНЦЕЛЬ
- **Кантактны тэлефон: (029) 222-58-22, (029) 660-57-41**
- **E-mail:** kupalinka_bnf@tut.by